*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

**№ 471 Красавік 2002 г.**
Год выданьня 52

**BIELARUS** / **Belarusan newspaper in Free World.**
Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

**Address:** P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

# *ВІНШУЕМ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ ЗЬ ВЯЛІКАДНЫМІ СЬВЯТАМІ!*

## УРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25-га САКАВІКА Ў НЬЮ ЁРКУ



***Удзельнікі сьвяткаваньня каля выставы лялек.*** *(Здымак У.Каўшовіка)*

24-га сакавіка Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне праводзіла ўрачыстае сьвяткаваньне, прысьвечанае 84-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі – Акту 25-га Сакавіка 1918-га году. Імпрэза прайшла ў залі Украінскага Дому на Мангэтане, і прысутнічалі на ёй больш за сто чалавек. Імпрэза адчынілася амэрыканскім гімнам, і вялі яе сп. Янка Запруднік і сп-ня Алеся Сёмуха. Напачатку з кароткім прывітальным словам выступіў старшыня нью ёрскага аддзелу БАЗА сп. Віталь Зайка, які заклікаў, паміж іншага, чытаць і падтрымліваць адноўленую газэту "Беларус". Затым з прывітаньнем выступіла Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі спня Івонка Сурвілла. Яна павіншавала ўсіх з нацыянальным сьвятам і выказала спадзяваньне на тое, што ў хуткім часе 25-га Сакавіка будзе вольна і ўрачыста сьвяткавацца ў Беларусі.

***Працяг на бач. 5***

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

### УРАЧЫСТАГА СХОДУ, АРГАНІЗАВАНАГА БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІМ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕМ У НЬЮ-ЁРКУ НА 84-я УГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

**1.** Беларускі народ, беларускае шматнацыянальнае грамадзтва, мае неад'емнае прыродное права жыць у Беларускай Народнай Рэспубліцы - сваёй дэмакратычнай, сувэрэннай і незалежнай дзяржаве. Грунтуючыся на гэтым пастуляце, мы наважаныя далей працаваць на адраджэньне Беларусі як сувэрэннай дзяржавы, кансалідацыі беларусаў як нацыі й фізычнага захаваньня беларускага народу.

**2.** Мы заклікаем усіх грамадзянаў Беларусі цаніць здабытую дзяржаўнасьць, бо толькі праз сваю дзяржаву ды сваімі ўласнымі сіламі народ можа наладзіць годнае жыцьцё для сябе й сваіх нашчадкаў. На дадзеным этапе, пры паслабленым у выніку русыфікацыі стане нацыянальнае сьведамасьці, тварэньне якіх-бы там ні было саюзных дзяржаваў прывядзе толькі да зьнішчэньня беларускае дзяржаўнасьці.

**3.** Мы заклікаем суродзічаў, якія жывуць у ЗША, а таксама беларусаў усяго сьвету дапамагаць замацоўваньню беларускай дзяржаўнасьці праз спрыяньне выхаду Беларусі як поўнапраўнага сувэрэна на міжнародныя двубаковыя й шматбаковыя кантакты. Мы выказваемся за ўсебаковыя міжнародныя сувязі беларускае дзяржавы, а таксама за супрацоўніцтва на парытэтных асновах з усімі суседзямі Беларусі, каб пашыраць дабрабыт народаў і мацаваць стабільнасьць рэгіёну.

**4.** Мы будзем рабіць усё магчымае, каб у Беларусі пашыралася й паглыблялася нацыянальная сьведамасьць ды разуменьне важнасьці свае дзяржаўнасьці, бо, як паказвае гісторыя народаў, нацыянальная годнасьць - гэта магутны псыхалягічны фактар, які моцна ўплывае на падвышэньне маралі й працаздольнасьці народу.

**5.** Мы надаем вялікае значэньне вяртаньню дзяржаўнае функцыі беларускай мове, паколькі яна - скарбніца спадчыны народу й аснова далейшага разьвіцьця.

**6.** Мы зьвяртаемся з заклікам да суродзічаў ва ўсім сьвеце трымаць лучнасьць зь Беларусьсю, наладжваць культурныя й эканамічныя сувязі, дапамагаць у пераадоленьні вынікаў чарнобыльскай катастрофы й эканамічных цяжкасьцяў.

**7.** Мы заклікаем беларускую моладзь і студэнцтва працягваць справу дзядоў і бацькоў, якія коштам ахвяраў жыцьця, крыві й працы дамагліся незалежнасьці ды гэтым маральна забавязалі зьберагчы й змацаваць іхнае дасягненьне.

**8.** Мы бачым магчымасьць выхаду Беларусі з сучаснае ізаляцыі й крызісу, калі беларускія ўлады будуць трымацца вышэй выказаных ідэяў і пастулятаў. Такі выхад ляжыць ня толькі ў інтарэсах беларускага грамадзтва, але ўсіх краінаў сьвету.

# ГАДЫ ІШЛІ...

## 26-га красавіка споўніцца 16 гадоў ад дня, калі выбухнуў Чарнобыль.

Як учора памятаю тую раніцу, калі з мужам пачула вестку аб выбуху ядзернай электрастанцыі ў Савецкім Саюзе.

Я падумала:"Мой Божа, хаця-ж каб не ў Беларусі!"

Цяжка апісаць крыўду, якую мы адчулі, калі зразумелі, што Беларусь была забруджаная, бо "ядзерную хмару вецер пагнаў з Украіны на поўнач". Здавалася, што ўсё, што дасюль рабілася, страціла сэнс. Дарэмнымі былі ўсе нашыя высілкі на працягу паўстагодзьдзя, каб памагчы Беларусі стацца незалежнай дзяржавай.

Праўда, па пэўным часе мы паспакайнелі. У ядзерным аддзеле Міністэрства Здароў'я Канады нам сказалі, што няма чым праймацца. Маўляў, "весткі з Савецкага Саюза добрыя, нічога катастрафічнага ня сталася."

Зь Беларусі таксама не было вестак аб катастрофе. Ды так хацелася верыць, што сапраўды, як тут кажуць:"Калі няма вестак, гэта значыць, што ўсё ў парадку"...

Толькі тры гады пазьней мы зразумелі, што нам хлусілі. У 1989-м годзе беларускія газэты пачалі пісаць аб перапоўненых шпіталях, пачалі друкаваць здымкі хворых дзетак, пачалі прасіць людзей добрай волі ўсяго сьвету, каб памаглі. Памятаю, у нашай хаце гады мы толькі аб гэтым і думалі, і гаварылі. Хутка паўстала думка падзяліцца з Канадаю нашым няшчасьцем, пачаць зьбіраць сродкі, каб купляць ды высылаць у Беларусь лекі ды усё іншае, чаго там не хапала. Даведалася, што а. Надсан у Англіі ўжо пачаў гэта рабіць. Думалі, што мо далучымся да яго.

Першы, хто падумаў аб патрэбе стварыць у Канадзе афіцыйную зарэгістраваную дабрачынную арганізвцыю, быў мой муж Янка. Гэта была ягоная ўмова, каб браць адказнасьць за грошы. Бо-ж да зарэгістраванай арганізацыі, пад поўным кантролем канадыйскай адміністрацыі, ніхто ня зможа прычапіцца... Зіна Гімпелевіч далучылася да нас, як толькі мы падзяліліся зь ёю нашымі намерамі. Трэйцяю асобаю, якая нам спатрэбілася, каб зарэгістраваць Канадыйскі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, згадзілася быць нашая сяброўка Паліна Пашкевіч, народжаная ў Канадзе, але бацькі якой паходзілі з Палесься. Зь Янкам узяліся за працу ў верасьні 1989-га году. Трэба было даказаць уладам што, чаму і як, і хто... Памагаў нам, на шчасьце, добры адвакат. Дазвол на існаваньне Фонду атрымалі 20-га лістапада 1989-га году, а статус грамадзкай дабрачыннай арганізацыі ў чэрвені 1990-га году.

У міжчасе, паводле канадыйскага права, трэба было стварыць управу. Мы меркавалі, што мусілі ўвайсьці ў яе старшыні галоўных беларускіх арганізацыяў у Канадзе. І праўда, усё гэта зрабілі да чацьвёртых угодкаў чарнобыльскага няшчасьця. Першая управа Фонду складалася з наступных асобаў: Івонка Сурвілла - старшыня, Зіна Гімпелевіч - скарбнік, Паўліна Пашкевіч - сакратар, Уладыка Мікалай, др. Раіса Жук-Грышкевіч, Мікола Ганько, Барыс Рагуля і другія сябры.

Першым заданьнем новастворанага Фонду было паінфармаваць як мага болей людзей аб чарнобыльскай катастрофе і яе наступствах у Беларусі.

***Працяг на бач. 4***

 






Whereas, on March 25, 1918, the All-Belarusan Congress proclaimed the independence of the Belarusan National Republic; and

Whereas, a constitution was adopted, providing freedom of speech, press and assembly, and many other protections for the liberty and dignity of the individual; and

Whereas, the pursuit of the Belarusan people of independence and democracy is an inspiration to all and deserves the support of the entire free world; and

Whereas, thousands of American citizens of Belarus descent now residing in New York State join in commemorating the 84th anniversary of the proclamation of the independence of the Belarusan National Republic;

Now, Therefore, I, George E. Pataki, Governor of the State of New York, do hereby recognize March 25, 2002 as

BELARUSAN INDEPENDENCE DAY

in the Empire State.



Governor




WHEREAS: THE BELARUSAN AMERICAN COMMUNITY IN NEW YORK CITY AND PEOPLE OF BELARUSAN DESCENT THROUGHOUT THE WORLD ARE CELEBRATING BELARUSAN INDEPENDENCE DAY ON THE TWENTY-FIFTH OF MARCH. THE BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, FOUNDED IN 1949, IS CELEBRATING THE 84TH ANNIVERSARY OF THE BELARUS NATIONAL REPUBLIC WITH A SERIES OF LECTURES AND CONCERTS THAT SHOWCASE THE RICH CULTURE OF BELARUS, AND THE WORK OF ITS FINE WRITERS, POETS, AND MUSICIANS. THE CELEBRATION CULMINATES WITH A COMMEMORATION, DINNER, AND CONCERT ON MARCH 24TH; AND

WHEREAS: IN THE SIXTH CENTURY AD THREE TRIBES SETTLED ON THE LAND THAT IS THE PRESENT DAY BELARUS. IN 980 AD, PRINCE RAHVALOD ISSUED THE FIRST WRITTEN DOCUMENT OF BELARUSAN STATEHOOD. THE CAPITAL, MINSK, WAS FOUNDED IN 1067. FROM THE 13TH TO THE 18TH CENTURY THE GRAND DUCHY OF LITVA CONSISTED OF THE PRESENT BELARUS AND OTHER TERRITORIES, AND THE STATE LANGUAGE WAS BELARUSAN. IN THE LATE 18TH CENTURY, BELARUS WAS INCORPORATED INTO THE RUSSIAN EMPIRE. AFTER VARIOUS UPRISINGS, ON MARCH 25, 1918, THE BELARUSAN NATIONAL REPUBLIC WAS PROCLAIMED, WITH A TEMPORARY CONSTITUTION GUARANTEEING THE RIGHT TO VOTE; FREEDOM OF SPEECH, PRESS AND ASSEMBLY; THE RIGHT TO THE 8-HOUR WORKING DAY; AND THE RIGHT TO STRIKE. HOWEVER, ON JANUARY 1, 1919 THE BYELORUSSIAN SOVIET SOCIALIST REPUBLIC WAS CREATED, AND IT WAS NOT UNTIL AUGUST 25, 1991 THAT THE REPUBLIC OF BELARUS DECLARED ITS INDEPENDENCE. TODAY THE PEOPLE OF BELARUS STILL STRUGGLE TO ATTAIN FULL DEMOCRACY, AND TO RECOVER FROM THE TRAGIC EFFECTS OF THE NUCLEAR DISASTER AT CHERNOBYL; AND

WHEREAS: THE FIRST BELARUSAN IMMIGRANTS SETTLED HERE IN NEW YORK CITY IN THE 1890s, AND TODAY THE BELARUSAN AMERICAN COMMUNITY IS ONE OF THE LARGEST IN THE UNITED STATES. ITS MEMBERS SHARE THEIR RICH CULTURAL HERITAGE WITH ALL NEW YORKERS, AND MAKE IMPORTANT CONTRIBUTIONS TO EVERY AREA OF THE LIFE OF OUR GREAT CITY.

NOW THEREFORE, I, MICHAEL R. BLOOMBERG, MAYOR OF THE CITY OF NEW YORK, IN RECOGNITION OF THIS IMPORTANT ANNIVERSARY, DO HEREBY PROCLAIM MONDAY, MARCH 25, 2002 IN THE CITY OF NEW YORK AS



"BELARUSAN INDEPENDENCE DAY"

MICHAEL R. BLOOMBERG
MAYOR

IN WITNESS WHEREOF I HAVE HEREUNTO SET MY HAND AND CAUSED THE SEAL OF THE CITY OF NEW YORK TO BE AFFIXED.

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ Ў ЧЫКАГА

## У РЭЛІГІЙНЫМ І КУЛЬТУРНЫМ ЦЭНТРЫ НА 3107 WEST FULLERTON AVE.

Урачыста адзначалася нацыянальнае беларускае сьвята - Дзень Незалежнасьці, Дзень Волі, 84-я ўгодкі БНР у чыкагскім Беларускім Рэлігійным и Культуральным Цэнтры (3107 W. Fullerton) пры каталіцкім храме Хрыста Збаўцы. Напачатку а. Джон Макданелл прачытаў малітву за беларускі народ і Беларусь. Сьвяткаваньне пачалося праслухоўваньнем амэрыканскага гімну і выкананьнем беларускага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Сьвяточную цырымонію вёў доктар Эл Талавер. З прывітальным словам ад імя Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага да прысутных зьвярнуўся ветэран беларускага эміграцкага руху доктар Вітаўт Рамук. Мастак Анатоль Упарт прачытаў верш беларускага паэта Алеся Пісарыка, прысьвечаны Кастусю Каліноўскаму, палымянаму змагару за свабоду Беларусі. Пра гісторыю гэтага сьвята, пра яго значэньне менавіта сёньня гаварыў у сваім рэфэраце журналіст Ванкарэм Нікіфаровіч. А потым адбыўся вялікі канцэрт кампазытара і сьпявака Міхася Клейнера. Гучалі яго песьні на словы Уладзімера Дубоўкі, Алеся Салаўя, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Грачанікава. Міхась Клейнер выканаў таксама песьні на свае ўласныя вершы, якія прагучалі ў перакладзе на беларускую мову.

Падчас сьвята ў залі была разгорнутая вялікая выстава новых беларускіх кнігаў, газэтаў, часапісаў. Завершылася сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці выкананьнем славутай песьні "God Bless America", пры гэтым было ўзгадана, што аўтар яе, Ірвінг Бейлін, родам зь беларускага Магілёва. Прагучаў таксама і беларускі духоўны гімн "Магутны Божа".

Чым асабіста для вас зьяўляецца гэтае сьвята - Дзень Волі?" - з такім пытаньнем зьвярнуўся карэспандэнт "Беларуса" да некаторых удзельнікаў сьвяткаваньня.

Вера Рамук, ветэран беларускай эміграцыі, адна з кіраўнікоў Беларускага каардынацыйнага камітэту ў Чыкага:" Я ад'язджала зь Беларусі ў 1944-м годзе яшчэ дзіцём. А калі ў 1993-м праз столькі гадоў паехала на радзіму, мне хацелася плакаць: я ўбачыла, як бедна людзі жывуць, якая бедная наша Беларусь у параўнаньні з многімі краінамі сьвету. Таму гэтае сьвята - мост, які злучае нас з радзімай. Мы хацелі-б быць у пастаяннай сувязі з радзімай, падтрымліваць яе, хацелі-б, каб яна была такая-ж свабодная як Амэрыка."

Анатоль Упарт, мастак:"Гэтае сьвята дае магчымасьць такім як я, хто жыве далёка ад Беларусі, сабрацца і сказаць: мы памятаем пра радзіму, увесь час думаем пра тое, як там людзі жывуць. Пра тое, што было, і пра тое, як павінна ўсё быць. Калі я званю сябрам у Менск і расказваю, як мы сьвяткуем Дзень Незалежнасьці, яны мне зайздросьцяць, зайздросьцяць нашаму актыўнаму духоўнаму жыцьцю. А ўвогульле, менавіта ў гэты дзень у мяне такое адчуваньне, што мае сябры жывуць не за акіянам, а праз вуліцу."

Міхась Кукабака, у нядаўнім мінулым - вядомы дысыдэнт, актыўны змагар за правы чалавека. Я многа гадоў марыў, ня толькі марыў, але і змагаўся, як мог, за тое, каб беларусы маглі ўрачыста адзначаць гэтае сьвята. Я семнаццаць гадоў правёў у савецкіх лягерох, змагаючыся супроць камуністычнай дэспатыі, супроць савецкай імпэрыі. Па сваіх перакананьнях я - антыімпэрыяліст, я супроць любога імпэрыялізму, хай гэта ў Расеі, Кітаі альбо Індыі. І тое, што мы сёньня тут сьвяткуем Дзень Незалежнасьці Беларусі, я разглядаю як некаторы вынік і ўсяго майго жыцьця.

*Ванкарэм Нікіфаровіч*

## У БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ СЬВ. ЮРЫЯ

Губэрнатар штату Ілінойс Джордж Раян да 84-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі выдаў праклямацыю, якою аб'явіў дзень 25-га Сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі ў штаце Ілінойс.

Памочніца губэрнатара па этнічных адносінах сп-ня Пат Міхальскі адмыслова наведала Беларускую Праваслаўную царкву Сьв. Юрыя, каб ўручыць праклямацыю сп. Ю. Календіку, старшыні царкоўнай управы.



***На здымку: Пат Міхальскі і Ю. Каленік падчас перадачы праклямацыі губэрнатара штату Ілінойсу.***

 

# 25-га САКАВІКА Ў БЕЛАРУСІ

## МЕНСК

Сьвяткаваньне пачалося апоўдні ў Парку імя Янкі Купалы. Каля 2000 чалавек сабраліся, каб адзначыць нацыянальнае сьвята. Старшыня БНФ і Партыі БНФ Вінцук Вячорка павіншаваў прысутных з Днём Незалежнасьці. Акцыя праходзіла ў форме своеасаблівага “Гайд-парку”. Людзі слухалі выступленьні мастацкіх калектываў і бардаў. А 13-й гадзіне ва ўрачыстай цішыні ўсе адсьпявалі гімн “Магутны Божа”. Потым усклалі кветкі да помніка Янку.Купалу.

Пасьля гэтага калёна людзей рушыла да помніка Якубу Коласу. Аднак шлях ім перагарадзілі шэрагі АМАПу. Міліцыянты заявілі, што калі людзі згорнуць сьцягі, то іх прапусьцяць на праспэкт. Аднак абяцаньне ня выканалі. Тады ўдзельнікі сьвяткаваньня вымушаныя былі вярнуцца да помніка, дзе было абвешчана пра заканчэньне акцыі.

Людзі па праспэкце рушылі да станцыі мэтро. Іх рух ператварыўся ў стыхійнае шэсьце з удзелам каля 1500 чалавек. Людзі, у асноўным моладзь, ішлі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, скандавалі лёзунгі “Жыве Беларусь!”, “Незалежнасьць!”, “Моладзь за Беларусь!”

Але хутка калёну спынілі шэрагі АМАПу і армейскага спецназу. Яны пачалі жорстка зьбіваць і затрымаліваць удзельнікаў шэсьця. Затрымалі больш за 50 чалавек, сярод іх лідэр Маладога Фронту Павал Севярынец, Вячаслаў Сіўчык, Юрась Пальчэўскі, Натальля Кійко, Юрась Зянковіч, пяць журналістаў, у тым ліку Зьміцер Саўка і Валеры Шчукін.

Частка людзей дайшла да пл. Якуба Коласа і ўсклалі кветкі. Хор “Адраджэньне” сьпяваў нацыянальны гімн, народныя сьпевы, і ў гэты час там таксама пачаліся затрыманьні. У пастарунку людзей пратрымалі больш за гадзіну, і, не знайшоўшы падставаў, каб скласьці пратаколы, адпусьцілі.



“...Відавочна, загад зьбіваць і затрымліваць ішоў з самага верху. Усё, што здарылася, сьведчыць толькі пра слабасьць улады ды жывёльны страх перад людзьмі, у якіх ёсьць ідэалы. Сёньняшнія падзеі, безумоўна, паўплываюць на характар наступных акцыяў”, - заявіў Вінцук Вячорка.

## ГОРАДНЯ

Сьвяткаваньне пачалося а 12-й гадзіне ў Старым парку. Узяло ўдзел каля 500 чалавек. Выступілі прафэсар Юры Хадыка, намесьнік старшыні БНФ; Сяргей Мальчык, кіраўнік абласной арганізацыі БНФ; Яўген Лугін, лідэр сялянскай партыі; Вадзім Саранчукоў, кіраўнік гарадзенскага МФ; лідэры мясцовых аддзяленьняў БСПГ і БДСП сп.сп. Сазонаў і Патрэба. Пасьля гэтага ўдзельнікі сьвяткаваньня рушылі ў бок Новага Замку, да мэмарыяльнай дошкі ў гонар паўстанцаў Т. Касьцюшкі. Але цэнтар гораду перакрыў АМАП і пачаў затрымліваць і зьбіваць сьвяткуючых. Некалькі чалавек былі зьбітыя вельмі моцна.

## ВІЦЕБСК

Апоўдні 24-га сакавіка пачалося шэсьце з нагоды Дня Волі. Каля 200 удзельнікаў прайшлі ад гарадзкой Ратушы да помніка Караткевічу, правялі там мітынг, а пасьля яго маладафронтаўскую віктарыну на эўрапейскую тэматыку.

## МАГІЛЁЎ

Некалькі дзесяткаў сябраў БНФ віншавалі зь Днём Волі жыхароў Магілёва. Яны стварылі сьвяточны настрой у цэнтры горада раздаваючы ў падарункі кветкі й ўлёткі.

Увечары сябры БНФ зладзілі вечарыну, дзе выступілі мясцовыя гісторыкі й барды. Тэма сустрэчы – БНР – мінулае і сучаснасьць выклікала цікавасьць у маладых людзей.

## БЕРАСЬЦЕ

24-га сакавіка а 12-й гадзіне ў зале Берасьцейскага абласнога аб'яднаньня прафсаюзаў прайшоў сьвяточны канцэрт з удзелам вядомага беларускага барда Віктара Шалкевіча. На сустрэчу прыйшлі слухачы розных узростаў: ад моладзі да ветэранаў.

У гэты-ж дзень Малады Фронт правеў турнір па міні-футболу на Кубак Незалежнасьці. У турніры ўдзельнічалі каманды зь Берасьця й Берасьцейскага раёну, Пінску й Барысава. Пераможцам стаў берасьцейскі клюб “Юніёрс”.

## АСІПОВІЧЫ

У цэнтральным парку сябры БНФ зладзілі гуляньне. Людзі сьпявалі, слухалі выступы бардаў, у парку ігралі музыкі на старадаўніх беларускіх народных інструмэнтах, адбыўся шашачны турнір.

Міліцыянты спрабавалі сарваць народнае гуляньне, перашкаджалі людзям трапіць у парк, аднак сьвяткаваньне завершылася мірна.

## СЛОНІМ

Ад 11-й да 13-й гадзіны сябры БНФ правялі пікет. Яны трымалі плякаты “Беларусь у Эўропу!”, раздавалі незалежныя газэты, віншавальныя ўлёткі. Распачаўся і скончыўся пікет сьпяваньнем гімну “Магутны Божа”.

## ШКЛОЎ

Сябры БНФ, ТБМ, сацыял-дэмакратаў правялі вечарыну ў гонар Дня Волі. На ёй вядомы шклоўскі краязнаўца, старшыня мясцовай суполкі ТБМ Аляксандр Грудзіна распавёў пра гісторыю БНР.

## ГЛЫБОКАЕ

Ля глыбоцкага Дому Культуры прайшоў пікет, які зладзілі сябры БНФ. Яны трымалі плякаты са словамі “Жыве незалежная Беларусь”, “25-га сакавіка – 84-ыя ўгодкі БНР”.

## МАР'ІНА ГОРКА

Удзень актывісты БНФ раздавалі ў цэнтры гораду віншаваньні з 84-й гадавінай Беларускай Народнай Рэспублікі.

# Беларусь за месяц

## МАЁМАСЬЦЬ БАЦЬКОЎ СЕВЯРЫНЦА АПІСАЛІ

У бацькоў лідэра Маладога фронту Паўла Севярынца апісалі маёмасьць. Хоць штраф у 300 мінімальных заробкаў (1800 даляраў ЗША) за ўдзел у Акцыі любові Паўлу прысудзілі ў Менску, дзе была акцыя, гэта ніколькі не пашкодзіла судовым выканаўцам апісаць маёмасьць бацькоў, якія жывуць у Віцебску. Апісвалі яе ў адсутнасьць гаспадароў, калі ў кватэры знаходзілася іх дачка з маленькім сынам. Апісалі ўсё: ад тэлевізара да ложка. Севярынцы-старэйшыя маюць зьвярнуцца ў пракуратуру, бо Паўлу ў кватэры нічога не належыць.

## ПЕРАСОЎНЫ ШКЛОЎСКІ ТЭАТАР АБСУРДУ

14-га сакавіка скончыўся суд над шклоўскімі актывістамі: Міхасём Кісялёвым, Максімам Патупчыкам, Алесем Паўловічам, Дзянісам Сенакосавым, Зьмітром Шалашковым. Сутнасьць справы найлепей праілюструе судовы дакумэнт.

"Працягваючы свае злачынныя дзеі ў мэтах рэалізацыі задумы, накіраванае на прыніжэньне гонару і годнасьці Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі Лукашэнка А.Р., Паўловіч А.В., на твары якога была апранутая маска, імітуючая твар Прэзыдэнта, выдаючы сябе за ўказанага главу дзяржавы, увайшоў у гандлёвую залю крамы №36, якая знаходзіцца ў вёсцы Градзец, і, зьвяртаючыся да прысутных там грамадзянаў, сказаў: "Вы што мяне не пазналі? Я - Ваш Прэзыдэнт". Пасьля чаго ў гандлёвую залю ўвайшлі Патупчык М.Я. і Кісялёў М.М., якія, выдаючы сябе за мэдыцынскіх работнікаў, загадзя ведаючы, што за іх дзеяньнямі назіраюць пабочныя асобы, са словамі: "Убярэм псіха" завялі Паўловічу А.В. рукі за сьпіну і вывелі з крамы".

"Чалавек у масцы", хадзіў па вуліцах Гарадца, агітаваў, абяцаў давесьці заробак да 100 даляраў, зьнізіць цэны, пасадзіць усіх жулікаў, прадпрымальнікаў і тых, хто ня будзе за яго галасаваць. Маладых людзей затрымала міліцыя. Спачатку вырашылі аформіць як дробнае хуліганства, але потым пракуратура завяла справу за абразу Прэзыдэнта.

У судзе сьведкі блыталіся, давалі розныя паказаньні, а дзьве бабулькі, 1917-га і 1920-га гадоў нараджэньня заявілі, што падпісвалі пратакол, не чытаўшы. Маўляў, сваёй міліцыі яны давяраюць. Паўловічу і Патупчыку, як непаўнагадовым, далі па 20 мінімальных заробкаў штрафу, астатнім па 100 мінімальных заробкаў. Ужо пасьля суду Патупчыка адлічылі з трэцяга курсу Магілёўскага палітэхнічнага тэхнікума. Цікава, што падчас пэрфомансу вяскоўцы думалі, што гэта артысты прыехалі.

## ПЭНСІЯ ШУШКЕВІЧА

Пэнсія першага сьпікера незалежнай Беларусі Станіслава Шушкевіч трохі меншая за 2 даляры (3196 рублёў). Яе налічылі ўказам прэзыдэнта Беларусі ў 1996-м годзе, калі яна складала - блізу 200 даляраў. Але ўказ не прадугледжваў індэксацыю ў выпадку інфляцыі. І цяпер праз пяць з паловаю годоў гэтыя 3190 рублёў не дацягваюць і да двух даляраў. Шушкевіч падаў у суд на міністэрства пэнсій і сацыяльнай абароны. Аднак 12-га сакавіка суд адхіліў пазоў. Пэнсію пакінулі той-жа самай.

Сярэдняя пэсія ў Беларусі складае 82 тыс. рублёў (48 даляраў). Былыя калгаснікі атрымліваюць і таго меней, каля 50 тыс. рублёў.

## МАГУТНЫ БОЖА Ў ДРУГІ ТУР НЕ ПРАЙШОЎ

10-га сакавіка адбыўся ўрачысты сход нацыянальнай інтэлігенцыі, на якім абмяркоўвалася справа нацыянальнага гімну. Прысутнічалі: старшыня Саюзу Беларускіх Пісьменьнікаў Вольга Іпатава, мастак Мікола Купава, гісторык Анатоль Грыцкевіч, Сяржук Сокалаў-Воюш, лідэр Маладога Фронту Павал Севярынец і старшыня БНФ Вінцук Вячорка і інш. Як і меркавалася, перамог "Магутны Божа" Н. Арсеньневай і М. Равенскага. Ён набраў 63 галасы з 133. Кантгімн з "Полацкага сшытку" сабраў 29 галасоў, "Пагоня" - 19, "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" - 23. "Радзіма мая дарагая" - 1.

Але камісія па гімну, узначаленая віцэ-прэм'ерам Уладзімерам Дражыным, не прыслухалася да голасу інтэлігенцыі. 27-га сакавіка абвесьцілі папярэднія вынікі конкурсу. Было пададзена 400 варыянтаў, зь іх больш за 100 варыянтаў на музыку Нестара Сакалоўскага, і каля 30 варыянтаў па-расейску.

У другі тур прайшлі "Радзіма мая дарагая" на музыку Уладзімера Алоўнікава і словы Алеся Бачылы, "Красуй, Беларусь" Васіля Раінчыка на словы Леаніда Пранчака і два варыянты на музыку Нестара Сакалоўскага. Як патлумачылі "эзопавай мовай" у вячэрняй "Панараме" камісія вырашыла не прапускаць у наступны тур варыянт "з выразнай рэлігійнай афарбоўкай, які грэбуе іншымі канфэсіямі" ("Магутны Божа"), "песьню, што прапагандуе гвалт" ("Мы выйдзем шчыльнымі радамі"), "варыянт, што зьяўляецца залішне асабістай песьняй" ("Пагоня"). Пачакаем наступнага туру.

## ВАНДАЛЫ

На найстарэйшых могілках Берасьця Трышынскіх, вандалы разбурылі 30 помнікаў. Аднаго з вандалаў затрымалі, гэта беспрацоўны 20-гадовы маладзён. А ў Полацку на могілках мясцовыя вандалы разбурылі 85 помнікаў, сярод іх помнік героям-вызваліцелям гораду.

## У ДЗЕНЬ ВОЛІ КЛІМАЎ АТРЫМАЎ ВОЛЮ

25-га сакавіка выйшаў на свабоду прадпрымальнік Андрэй Клімаў. Ён быў асуджаны ў лютым 1998-га году за эканамічныя злачынствы на 6 год. Увосень 1996-га году дэпутат Вярхоўнага Савету Клімаў падчас супрацьстаяньня парляманту і прэзыдэнта заклікаў нават арыштаваць Лукашэнку. Вось і адпомсьцілі. На імпрэзе ў Доме вэтэранаў з нагоды Дня Волі Андрэй Клімаў заявіў: "Цяпер я бачу і веру ў тое, што ў Беларусі ёсьць каму адстойваць яе незалежнасьць, ёсьць каму змагацца за эканамічны росквіт. Нам ёсьць куды ісьці, нам ёсьць што вымятаць з нашага дому. Жыве Беларусь!"

# БЕЛАРУСЫ Ў КАНАДЗЕ РАБІЛІ ЎСЁ, КАБ ДАПАМАГЧЫ СУРОДЗІЧАМ

*Пачатак на бач. 1*

Ня ведалі мы тады, колькі гэта будзе каштаваць нам высілкаў. Па-першае, для ўсяго сьвету катастрофа здарылася на Ўкраіне. Дык пры чым тут Беларусь? Украінцы, між іншым, вельмі спрытна выкарыстоўвалі гэтую акалічнасьць, і ў сваіх намаганьнях памагчы Ўкраіне ня толькі поўнасьцю замоўчвалі наступствы Чарнобыля ў Беларусі, але й выкарыстоўвалі здымкі й інфармацыю зь Беларусі для свае прапаганды. Калі я зьвярнулася да Чырвонага Крыжа, мяне запрасілі празь ведлівасьць на даклад іхняга украінскага супрацоўніка, адказнага за ўсю пацярпелую тэрыторыю. Але калі я пасьля дакладу папрасіла яго расказаць штосьці аб наступствах Чарнобыля ў Беларусі, ён адказаў, што Беларусь шмат не пацярпела, і што Чырвоны Крыж ужо выслаў туды мабільны лячэбны дыспансар.

Прэса са свайго боку ўважала, што Чарнобыль ужо не навіна. Катастрофа здарылася чатыры гады таму, пра Беларусь ніхто ня чуў, гэта значыць, што тэма ня будзе цікавіць чытачоў... Праўда, пасьля некалькіх тэлефонных званкоў, у тым ліку і да галоўнага рэдактара, атаўская газэта "Атава Сітызэн" прыслала свайго рэпартэра. Але 26-га красавіка зьмясьціла замест артыкула пра Беларусь артыкул журналісткі з Масквы, дзе Чарнобыль быў прадстаўлены з тамтэйшага пункту гледжаньня. Толькі нашыя прыяцелі заўважылі маленькую зацемку пра мае стараньні й прыслалі на Фонд некалькі чэкаў. Гэта дазволіла нам выслаць з дапамогаю доктара Рагулі пачку шпрыцаў (на 1600 кан. даляраў) Беларускаму Дабрачыннаму Фонду Дзецям Чарнобыля.

У першы год існаваньня Канадыйскага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, ня гледзячы на тое, што ня было такой магчымасьці, якую мы ня выкарысталі, каб інфармаваць людзей пра нядолю нашага народу, мы сабралі толькі каля пяці тысяч канадыйскіх даляраў. І гэта з дапамогаю групы журналістаў з Альбэрты, якія, правёўшы два тыдні ў Беларусі, вярнуліся з намерам нам дапамагчы. Яны, як і мы, былі пэўныя, што калі людзі ў Канадзе даведаюцца праўду, то не адмовяць свае помачы.

У міжчасе на Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі я спаткала Генадзя Грушавога і была захопленая працаю, якую ён рабіў у Беларусі дапамагаючы дзеткам, пацярпелым ад радыяцыі. Падчас банкету сабрала паміж прысутнымі каля чатырох тысячаў даляраў, якія там і перадала старшыні Беларускага Дабрачыннага Фонду Дзецям Чарнобыля. Калі Генадзь Грушавы прыехаў на запрашэньне Барыса Рагулі ў Канаду ў 1991-м годзе, мы з мужам зарганізавалі яму шэраг спатканьняў у Атаве: у Міністэрстве Здароў'я, у Чырвоным Крыжы, у Канадыйскай Асацыяцыі Лекараў і г. д. Найважнейшым спатканьнем аднак аказалася інтэрв'ю, якое ён даў газэце "Атава Сітызэн". Падчас гэтага інтэрв'ю мы й выпрашылі прывезьці групу беларускіх дзетак на адпачынак у Атаву. У газэце быў цудоўны артыкул, і я перадала Грушавому запрашэньне на 15 малышоў. Дзесятак дзён пазьней мы ўжо мелі семдзесят сем'яў, гатовых прыняць у сябе чарнобыльскае дзіця.


Разьвітаньне з групай беларускіх дзетак у 1994-м годзе

Цяжка апісаць энтузыязм нашых супрацоўнікаў і нашае шчасьце ў гэты першы год, калі мы змаглі прывезьці 69 дзетак зь Беларусі на аздараўленьне й летні адпачынак (адно дзіця ў апошні момант захварэла). Працавалі мы, праўда, дасលоўна дзень і ноч. Раптоўна прэса і тэлебачаньне пачалі цікавіцца нашымі высілкамі. За лета я дала больш пяцідзесяці інтэрв'ю. Была паўстала праблема, калі зь Менску паведамілі ў апошні момант, што 24 дзетак ня змогуць прыехаць з-за адсутнасьці сродкаў. Прыйшлося тады знайсьці за тыдзень часу 12 000 канадыйскіх даляраў на квіткі. Узялі пазыку. Тады "мора было па калені", як казаў Янка. У сапраўднасьці-ж я моцна веру, што Бог быў разам з намі. Прайшло лета як у казцы. Каб ня здымкі, дык здавалася-б, што сьнілася.

Між іншым, у тым першым годзе мы паслалі разам зь дзеткамі ў Беларусь сорак чатыры каляскі (крэслы на колах, як кажуць тут) для беларускіх інвалідаў. Гэтую праграму ажыцьцявілі дзякуючы сьляпой супрацоўніцы - яна зьбірала каляскі ў людзей, якім яны не былі патрэбныя - і двум спэцыялістам, мужу з жонкаю, якія іх аднаўлялі. Пакавалі каляскі талакой цэлы дзень. Успамін яшчэ цяпер цешыць.

У 1992-м годзе мы здолелі самыя аплаціць падарожжа дзетак, бо пасьля кожнага інтэрв'ю людзі слалі дапамогу. Прывезьлі іх 110. У 1993-м годзе ўжо трэба было самім зьбіраць грошы на падарожжа. Кожны год прыяжджала ўсё болей маленькіх ахвяраў Чарнобыля. У 1997-м годзе прыехала болей за 600.

Да 1994-га году некалькі асобаў рабілі ўсю працу вечарамі. Толькі, каб паквітаваць атрыманыя грошы ды падзякаваць кожнаму дабрачынцу, займала паўгоду маіх вечароў (бо-ж днём працавала). Другога паўгаду трэба было, каб арганізаваць прыезд дзетак, што таксама займала кожную вольную хвілінку. Людзі пачалі хварэць ад утомленасьці. У 1995-м годзе вымушаныя былі наняць першага платнага супрацоўніка. Фонд стаўся вялікай арганізацыяй. Пасылалі лекі ў Беларусь, прывозілі лекараў на стажыроўкі ў канадыйскіх шпіталях, завезьлі кампутары ў Чавускую школу. У красавіку 1992-га году на нашую просьбу канадыйскае Міністэрства Замежных Справаў выслала ў Беларусь на мільён даляраў лекаў, у 1993-м годзе ахвяравала паўмільёна даляраў, каб правесьці ў Беларусі кампанію вакцынацыі. Без нашай інтэрвэнцыі ўсё гэта пайшло-б у Маскву.

# ГАДЫ ІШЛІ...

За гэтыя гады тысячы дзетак былі ў Канадзе на адпачынку. Завязалася сяброўства між шматлікімі беларускімі й канадыйскімі сем'ямі. Сотні канадыйцаў адведалі Беларусь, уключна з журналістамі. У газэтах друкавалі шматлікія артыкулы пра Беларусь. Адна сэрыя артыкулаў журналіста Дэйвіда Эванса была апублікаваная пад загалоўкам "Беларусь зь любоўю". І гэта, магчыма, найболей напаўняла сэрца шчасьцем. Нарэшце Канада даведалася пра Беларусь. На апошнім гадавым зьездзе Фонду мы зь Нінай Гімпелевіч са сьлязьмі на вачах слухалі выказваньні нашых супрацоўнікаў, канадыйцаў, якія так моцна палюбілі наш народ і так моцна жадаюць яму памагчы.

Цяпер Фонд налічвае тысячы сяброў ад акіяну да акіяну. Канадыйскія сем'і ўвесь год зьбіраюць грошы, каб аплаціць выдаткі, зьвязаныя з прыездам дзіцяці (квіток на самалёт, візы, аўтобусы, страхоўку падчас побыту дзіцяці ў Канадзе, выдаткі, зьвязаныя з прыездам перакладчыка-апекуна). Стварылася сэрыя другіх арганізацыяў, якія таксама дапамагаюць Беларусі, высылаюць лекі, рознае абсталяваньне для шпіталяў. Наш лёнданскі (Лёндан у Канадзе) аддзел, які арганізаваў Др. Рагуля, пераняў праграму лекарскіх стажаў і прывозіць на практыку ў Канаду кожны год па некалькі лекараў. Прывозім шмат дзетак зь дзіцячых дамоў, якія вязуць, вяртаючыся, дапамогу сваім сябрам і сяброўкам у доме, дзе жывуць. Іх бяруць сем'і на дванаццаць тыдняў. (Найкарацейшы побыт дзіцяці ў Канадзе - шэсьць тыдняў).

Я была старшынём Фонду да верасьня 1997-га году. Цяпер старшыня спадарыня Лёры Лёўс, цудоўная жанчына-настаўніца, якая адначасна вядзе сірочую праграму. Яна з мужам адаптавала маленькага беларуса Пецю. Выканаўчай дырэктаркай ёсьць Магі Макляўд. У гэтым годзе Лёры й Магі будуць прысутнічаць на канфэрэнцыі "Сьвет пасьля Чарнобылю" ў Менску. Управа налічвае васемнаццаць асобаў з усяе Канады. Трэба зазначыць, што ўсе гэтыя людзі, за выняткам аднае асобы, працуюць у Фондзе без аніякое аплаты.

Нядаўна выйшаў з друку раман "Wishing Star Summer", на які Зіна Гімпелевіч напісала рэцэнзію ў Belarusian Review. У гэтым рамане пісьменніца Бэрыль "нг апісвае дасьведчаньне сям'і свайго сына, якая прыймала ў сябе некалькі разоў дзяўчынку з Чавусаў. Кніга мела шмат посьпеху ў Канадзе ды пазнаёміла яшчэ больш канадыйцаў з тым, што ёсьць такая краіна Беларусь, і што яе людзі моцна патрабуюць дапамогі, каб перажыць вялікую бяду, якую пакінуў ім у спадчыну Савецкі Саюз.

*Івонка Сурвілла*

# 31-я ЎГОДКІ БНР БЫЛІ ПЕРШЫМІ Ў ТАРОНЬЦЕ

## Калі аглядаешся назад, якая-ж вялізная радасьць, што ёсьць дакументацыя.


Сьвяткаваньне 25-га Сакавіка сябрамі ЗБК у Таронта ў 1949 годзе. Кастусь Акула, старшыня Галоўнай управы ЗБК - трэці справа.

Першая нацыянальная беларуская арганізацыя пасьля Другой Сусьветнай вайны нарадзілася ў Канадзе ў лістападзе 1948-га году ў Таронце, правінцыі Антарыё. Называўся яна Згуртаваньне Беларусаў у Канадзе, аб'ядноўвала ў бальшыні нашых суродзічаў, ветэранаў восьмай брытанскай арміі, польскага корпусу Андэрса, што змагалася супраць гітлераўскай Нямеччыны ў Італіі.

ЗБК заўдзячвае свае раньнія народзіны таму, што ўжо ў лютым 1948-га году ў Ашаве, індустрыяльным горадзе недалёка ад Таронта, пачаў выходзіць часапіс "Беларускі Эміграпт", месячнік, які заклікаў суродзічаў да яднаньня, нацыянальнай і грамадзкай працы. А працы было шмат, бо не было-ж тут нічога нацыянальнага беларускага.

Трыццаць першыя ўгодкі абвешчаньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, што сьвяткаваліся ў Таронта, для бальшыні прасутных, нядаўна прыбыўшых сюды з паняволенай Бацькаўшчыны нашых суродзічаў, зьявіліся надзвычайна важным у іхнім жыцьці днём: яны адкрылі галоўную падзею з нашай гісторыі, дзень аднаўленьня беларускай дзяржаўнасьці ў 1918-м годзе ў Менску. Прысутныя, што пакінулі чужынцам дамы, як Купала некалі назваў "раскіданыя гнёзды", тут пачалі будаваць сваё нацыянальнае жыцьцё.

*Кастусь Акула*





# Весткі й Паведамленьні

**нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**

**Viestki j Paviedamlenni**

**Belarusan American Association, Inc.**

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 **Сусьветнае павуціньне:** http://belam.cjb.net **№5 (435)**



# ДЭМАНСТРАЦЫЯ ПРАТЭСТУ Ў НЬЮ ЁРКУ




*Здымак У.Каўшовіка*

23-га сакавіка нью ёрскі аддзел БАЗА ладзіў акцыю пратэсту супраць анты-беларускага рэжыму Лукашэнкі й экспансыяніcцкай палітыкі Расеі ў Беларусі. Акцыя пачалася перад гмахам штаб-кватэры Аб'еднаных Нацыяў на 1-й Авэню. Напачатку старшыня аддзелу сп. Зайка павіншаваў усіх з надыходзячым нацыянальным сьвятам 25-га Сакавіка і адзначыў, што Ўстаўная Грамата Рады БНР, прынятыя 84 гады таму, праклямавалі свабоду слова, свабоду друку, свабоду сходаў ды іншыя дэмакратычныя правы й свабоды. Нажаль, сёньня Беларусь так і не здабыла гэтых свабодаў, і ня мае сапраўднай волі й незалежнасьці. "Таму сёньня мы выходзім выказаць слова пратэсту супраць манархічнай улады Лукашэнкі, супраць даўгіх рук яговых маскоўскіх гаспадароў, што вырашаюць лёс нашага краю і ўлезьлі ў кожную дзялянку палітычнага, эканамічнага й грамадзкага жыцьця Беларусі. Нажаль, ня ўсім бачная небясьпека для ўсяго сьвету з боку аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі, і шмат якія краіны, асабліва ў Радзе Эўропы, праз пальцы глядзяць на рэжым у Менску і на ягоную падтрымку Расеяй. Таму мы ўдзячныя ўраду ЗША за ўвагу да падзеяў у Беларусі, але разам з тым заклікаем больш жорстка паставіцца да Расеі як асноўнага й адзінага апірышча рэжыму. Мы падтрымліваем змагароў супраць рэжыму ў Беларусі, патрабуем спыніць зьнішчэньне беларускай мовы й здушэньне беларускай культуры!"

Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць нагадаў асноўныя этапы змаганьня за апошнія 84 гады й сказаў: "Справа змаганьня за вольную Беларусь каштавала многіх тысячаў жыцьцяў, і сёньня мы ўспамінаем усіх, хто загінуў за Бацькаўшчыну. Але справа гэтая прыцягвае новыя й новыя сілы, і мы верым, што яна пераможа. У нашых сілах – наблізіць гэтую перамогу". Прамоўца асабліва падкрэсьліў небясьпеку апошніх захадаў рэжыму на здушэньне свабоды друку й перасьлед незалежных газэтаў і нагадаў пра неабходнасьць падтрымаць ахвяраў перасьледу. Удзельнікі дэманстрацыі трымалі беларускія нацыянальныя сьцягі, плякаты з выказамі пратэсту супраць рэжыму Лукашэнкі й расейскага імпэрыялізму, скандавалі лёзунгі "Жыве Беларусь", "Далоў Лукашэнку".

Дэманстранты са сьцягамі й плякатамі прайшлі на 67-ю вуліцу, да беларускай і расейскай місіяў пры ААН, дзе працягнулі акцыю пратэсту, скандуючы лёзунгі, сьпяваючы нацыянальныя песьні й раздаючы мінакам улёткі пра акцыю. Прадстаўнікі місіяў адмовіліся прыняць ліст пратэсту, і супрацоўнік "ворганаў" пачаў фатаграфаваць удзельнікаў акцыі. Наагул прайшла яна ўдала, і кіраўніцтва аддзелу дзякуе ўсім, хто прыйшоў падтрымаць братоў і сёстраў у Беларусі й выказаць пратэст супраць дыктатуры.

***Віталь Зайка***

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ Ў НЬЮ ЁРКУ

*Пачатак на бач. 1*

Прамоўца таксама сказала: "Беларусь адродзіцца любоўю. Сёньня мае думкі з абаронцамі Курапатаў, з перасьледванымі беларускімі журналістымі, з ТБМ-аўцамі й змагарамі за беларускую мову, з беларускімі рокерамі, з хакейшчыкамі, дзякуючы якім сьвет загаварыў пра Беларусь. Думкі мае з усімі, хто верыць у Беларусь".

Былі зачытаныя прывітаньні ад Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі, Беларускага кангрэсовага камітэту, Фэдэрацыі беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі, Бэльгійскага сэктару Рады БНР, Беларускага Народнага Фронту, Таварыства Беларускай Мовы ды іншых арганізацыяў ды асобаў.

Сп. Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, прачытаў даклад "Нацыянальны Дзень", прысьвечаны 25-му Сакавіка. У ім сп. Кіпель адзначыў, што гэтую дату беларусы ў Амэрыцы пачалі адзначаць яшчэ ў 1920-м годзе ў Чыкага, Нью Ёрку й штаце Мінэсота. Прамоўца спыніўся на падзеях 84-гадовай даўніны й адзначыў, што прыняцьце Акту 25-га Сакавіка было найважнейшай падзеяй для Беларусі ў 20-м стагодзьдзі. " За 15 год, з 1902-га да 1917-га году, беларускі рух вырас ад адной партыі зь некалькімі дзесяткамі сяброў, да Ўсебеларускага Кангрэсу, які дэмакратычна рэпрэзэнтаваў волю ўсяго насельніцтва Беларусі, розныя партыі й нацыянальнасьці. Рада БНР ёсьць прадаўжальнікам таго змаганьня, што пачалося 84 гады назад. Пагроза для Беларусі застаецца адтуль-жа, як і ў тыя далёкія гады. Але шэрагі змагароў мацнеюць, каляніяльны стан будзе заменены сапраўды вольнай і незалежнай беларускай дзяржавай."

Затым сп-ня Алеся Сёмуха прачытала Праклямацыю ад губэрнатара штату Нью Ёрк Дж. Патакі, а сп. Коля Романо – Праклямацыю ад мэру горада Нью Ёрку М. Блумбэрга.

У часе ўрачыстай акадэміі спня Валя Пархоменка выканала песьні "О Беларусь, мая шыпшына" на словы Ул. Дубоўкі, "Край ты мой адзіны" на словы Ул. Карызны й верш Н. Арсеньневай "Сакавік".

Прысутныя прынялі рэзалюцыю ўрачыстага сходу адзінагалосна.

Акадэмія закончылася сьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" на словы Макара Краўцова й музыку Ул. Тэраўскага.

Затым прысутныя падмацаваліся смачным абедам. Пасьля ўсе з асалодай праслухалі канцэрт з удзелам Валі Пархоменкі, Алеся й Вольгі Казакоў. Падчас канцэрту людзі танчылі й падпявалі.

Сп-ня Валя Якімовіч падрыхтавала вельмі прыгожую калярытную выставу лялек у беларускіх строях. У залі можна было набыць беларускія кнігі й кружэлкі, выпіць віна ці гарэлкі.

За арганізацыю й правядзеньне імпрэзы асаблівая падзяка належыць Але Кузьміцкай-Шчэцька, Юлі й Паўлу Андрусышын, Але Орса-Романо, Валераму Дворніку, Веры й Францішу Бартулям, Анатолю Тальянскаму, Янку Запрудніку, Алесі Сёмуха, Міколу Шыдлоўскаму, Валі Якімовіч, Сяргею Капытку.

***В. Зайка.***

## Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:

**Складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| С. Аляцёнак | 30 | У. Кадала | 30 |
| Д. Бондзін | 30 | У. Каўшовік | 30 |
| Л. Васільева | 30 | А. Міцкевіч | 30 |
| З. Вашкевіч | 30 | Т. Міцкевіч | 30 |
| М. Вашкевіч | 30 | Л. Сагановіч | 30 |
| Н. Гаршкова | 30 | М. Сагановіч | 30 |
| С. Дарагакупец | 30 | А. Тальянскі | 30 |
| В. Запруднік | 30 | В. Якімовіч | 30 |

**На БелПом:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Др. У. Набагез | 100 | А. Субота | 40 |
| М. Сагановіч | 100 | М. Грэбень | 30 |
| П. Пікулік | 60 | К. Ворт | 25 |
| А. Міцкевіч | 40 | М. Сьнежка | 25 |

**Усе ўплаты ў аддзел дасылайце скарбніку аддзелу на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

*Чэкі выпісвайце на Belarusan American Association.*

**Ахвяраваньне на БелПом дасылайце на адрас:**

*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*

*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя A. Mickievic*

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 13-га КРАСАВІКА 2002 ГОДУ Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА ПА АДРАСУ:**

**166-34 GOTHIC DR., JAMAICA**

***Даезд цягнікам падземкі F да 169th Street.***

# САКАВІЦКІ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА

9-га сакавіка адбыўся штомесячны сход нью ёрскага аддзелу БАЗА. Напачатку з падборкай навінаў пра падзеі ў Беларусі прысутных азнаёміў старшыня аддзелу сп. В. Зайка.

Затым з цікавай гутаркай пра сваю творчасьць і жыцьцё выступіў сп. Анатоль Клышка, пісьменьнік, літаратуразнаўца й асьветнік, аўтар беларускага лямантару "Буквар", па якім вось ужо 33 гады пачынаюць знаёмства са сваім пісьменствам беларускія дзеці. Сп. А. Клышка ў вельмі цікавай, займальнай форме распавёў пра сябе і сваю працу – у раённай газэце яшчэ ў сталінскія часы, потым – у "ЛіМе", "Полымі", Інстытуце пэдагогікі, а таксама пра свае кнігі й пераклады, у тым ліку з Новага Запавету і з антычных аўтараў. Сп. Клышка дэклямаваў свае вершы, языкаломкі, узоры кленічаў; эпіграмы Марцыяла в уласных перакладах, якія былі сустрэтыя гучнымі воплескамі й сьмехам прысутных.

Затым сп. А. Шукелойць падзяліўся сваімі заўвагамі пра палітычныя падзеі ў Беларусі. Пасьля былі аб'явы й паведамленьні зь дзейнасьці аддзелу і знаёмства з новымі людзямі, што ўпершыню прыйшлі пабачыцца зь землякамі.

***В. Зайка.***

# ЧЫМ ВЫКЛІКАНЫ ВАРВАРСКІ НАСТУП НА КУРАПАТЫ

Ідэалёгія і палітыка разбурэньня Курапатаў зразумелая. Уладу ў Беларусі захапілі выхадцы з НКВД-КГБ, якія хацелі-б зьнішчыць сьведчаньні генацыду, што ажыцьцяўляла Масква праз ворганы НКВД. Усе спробы сфальшаваць вынікі навуковых дасьледваньняў, зробленых у 1988-м годзе, і абвергнуць вынікі сьледзтва па Курапатах праваліліся. Пасьля гэтага запанавала ўяўная цішыня, у час якой паволі руйнавалася і зачышчалася ўсё, што зьвязанае з памяцьцю пра Курапаты, засьмечвалася тэрыторыя магілаў, месца рабілася прахадным, кінутым на таптаньне жыхароў з бліжэйшых кварталаў горада.



*Гэтыя крыжы былі зьнішчаныя будаўнікамі* (Здымак У.Цярохіна)

Тактыка рэжыму была зразумелай і яе неабходна было спыніць. У 2000-м годзе на Дзяды Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" і ягоная Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя - БНФ распачалі актыўнае стварэньне ў Курапатах Народнага Мэмарыялу Беларускай мартыралёгіі. Было наладжана масавае Крыжовае шэсьце ў Курапаты й устаноўлена над магіламі мноства крыжоў (больш 30-ці).

Ставіць крыжы працягвалі ўвесь час. На 2001-ы год іх ужо было больш за сотню. Растлумачылі (часткова ў друку) канцэпцыю Народнага Мэмарыялу ў Курапатах, які па задуме ствараў-бы сам народ. Дзеля гэтага кожны мог зрабіць і прынесьці ў Курапаты свой крыж, паставіць яго за душы расстраляных беларусаў, сваіх родных і блізкіх. Над магіламі расстраляных на Курапацкіх горах, на палянах і ўздоўж дарог вырастаў-бы лес крыжоў. Усё гэта рэальна абазначыла-б памяць па расстраляных і сымбалізавала-б уваскрасеньне душаў. (Такі беларускі крыжовы помнік ёсьць на сьвятой гары Грабарка на Беласточчыне і ў іншых месцах. Кожны год беларусы нясуць у Грабарку крыжы.)

Справа зрушылася. Гэтакія дзеяньні выклікалі ціхую паніку ў кіраўніцтва рэжыму. Безумоўна, маскоўскія аналітыкі з ГБ прааналізавалі задуму Народнага Мэмарыялу і зразумелі, што прыходзіць канец іхным спробам схаваць памяць пра Курапаты й паступова зьнішчыць іх.

Рэакцыя была пасьпешнай і грубай. Ужо летам 2001-га году пачалася падрыхтоўка да будаўніцтва шырокай аўтастрады праз Курапаты. Пры тым так сьпяшаліся, што пачалі бяз пляну і без узгадненьня праекту. Мэтадам такога будаўніцтва (гледзячы па абставінах) можна было разбурыць і зьнішчыць літаральна ўсё: і лес, і крыжы, і магілы. Напрацаваны вялікі савецкі вопыт зьнішчэньня культуры. Гісторыя расейскай акупацыі ў Беларусі паказала, што не існуе ніякіх маральных перашкодаў у варвараў: ні ў тых, хто загадвае, ні ў тых, хто выконвае. Тыя, хто разбураюць крыжы й магілы, ня маюць ніякіх духоўных каштоўнасьцяў, акрамя паняцьцяў нявольніка і раба.

Разбурэньне Курапатаў заплянаванае з асаблівым цынізмам. Варта зьвярнуць увагу на даты. Ігнаруючы ўсіх і ўсё, шырокім фронтам прыступілі да будаўніча-разбуральных працаў у зоне Курапатаў 20-га верасьня, якраз ў дзень так званай "самаінаўгурацыі" Лукашэнкі пасьля сфальшаваных выбараў. 8-га лістапада, на другі дзень галоўнага бальшавіцкага сьвята, па загаду зьверху пачалі ламаць крыжы, зьбіваць і катаваць людзей - абаронцаў магіл, кінулі на іх тэхніку, бульдозеры, КГБ і спэцыяльныя атрады міліцыі.

Такое супадзеньне датаў добра адлюстроўвае ідэалёгію вандалізму, паказвае, у якой сфэры паняцьцяў існуюць разбуральнікі Курапатаў.

Курапаты - унікальны помнік і сымбаль генацыду. Ад асэнсаваньня яго беларусамі шмат у чым залежыць лепшая будучыня Беларусі. Бяда як раз у тым, што непрыяцелі беларушчыны гэта разумеюць лепш, чым некаторыя беларусы. Лёс Курапатаў будзе залежыць ад двух зьяваў: ад сілы супраціўленьня варварству і, галоўнае, ад удзыму і моцы стваральнай працы, ад рабленьня Народнага Мэмарыялу крыжоў. Рэч зразумелая: напачатку гэтую працу павінна ўзяць на сваё плечы арганізаваная эліта грамадзтва, актыўныя і сьведамыя людзі, пакуль ня зрушыцца ўвесь народ.

**Зянон ПАЗЬНЯК**

# БЕЛАРУСКАЯ ПАНАРАМА

## Першая беларуска ў кнізе рэкодаў Гінэса

Ірына Валенкова - выдатная беларуская альпіністка. Сярод ейных дасягненьняў - трохразовае ўзыходжаньне на Эльбрус, а таксама на найвышэйшы пік Паўночнай Амэрыкі, Мак-Кінлі ў Аляскі. Пасьля гэтага яна задумала ўзыйсьці на найбольшыя вяршаліны ўсіх кантынэнтаў. Але шэсьць гадоў таму яна ледзь ня страціла жыцьця, калі ўзыйшла на пік недаступнае тыбэцкае гары - Даўлагіры (вышыня больш за 8 тысячаў мэтраў). Ня здолеўшы дзеля непагадзі вярнуцца на базу, застаўшыся ў марозным разрэджаным на кісларод паветры, у цемені, яна на працягу 13 гадзін, не пакідаючы рухацца на вузкай ледзяной пляцоўцы, змагалася, каб застацца ў жывых. Гэта ёй каштавала адмарожаныя пальцы й страту ног, якія давялося замяніць пратэзамі. Ніхто яшчэ з альпіністаў ня выжыў у сытуацыі, у якой апынулася Ірына на ліку гары. У такіх выпадках нешчасьліўцы гінуць на працягу некалькіх гадзін. Ірына Валенкова сталася свайго роду навучальным прыкладам для падрыхтоўкі альпіністаў. І толькі пасьля шасьцёх гадоў яна заслужыла на прызнаньне ёй месца ў кнізе рэкордаў Гінэса.

Летась Ірына сталася адзіным прадстаўніком Беларусі ў кіраўніцтве Міжнароднае Асацыяцыі Альпіністаў. Пад эгідай гэтай аргнізацыі яна мае намер зьдзейсьніць увосень сёлета яшчэ адзін праект у Гімаляях - узыйсьці без кіслароду на гару Чуу-Ю (8 тыс. м.). Разам зь бел-чырвона-белым сьцягам, яна хоча ўзяць з сабой нацыянальную вопратку, каб надзець яе на вяршаліне й зрабіць відэаздымку.

**(Паводле "Белорусской деловой газеты", 11.03.02)**

## Катэдра беларусаведы

Пры Эўрапейскім Гуманітарным Унівэрсытэце (ЭГУ) ў Менску арганізуецца Цэнтар беларусаведы. Пра гэта паведаміў выдаваны ў ЗША бюлетэнь "Bridges" /"Масты"/. "Масты" выдае фундацыя, якая займаецца справай дапамогі ЭГУ. Фундацыю ачольвае былы амэрыканскі пасол у незалежнай Беларусі сп. Дэйвід Сўорц.

Зь леташняга восеньскага нумару "Мастоў" даведваемся, што на чале беларусаведнага цэнтру ЭГУ стаіць сп. Уладзімір Гілеп. Сп. Гілеп рэалізуе цяпер два праекты:

1. Збор дадзеных і выданьне даведнікаў у сэрыі "Славутыя імёны Бацькаўшчыны". Выданьні ў гэтай сэрыі будуць пакладзеныя ў аснову курсу гісторыі беларускай культуры.
2. Рэстаўрацыя й перахаваньне помнікаў матарыяльнай культуры Беларусі (паркаў, сядзібаў і іншых старасьвецкіх будынкаў.

Фундацыя дапамогі ЭГУ, якую ачольсвае сп. Сўорц, разьлічвае на грашовую падтрымку беларусаведнага цэнтру ЭГУ. Калі б хто жадаў падтрымаць гэты вартасны праект (ахвяраваньні можна адлічаць з падаткаў), зьвяртацца трэба на адрас:

***The European Humanities University Foundation, Inc., P. O. Box 1041, Vienna, Virginia 22183-1041; Phone/Fax: (703) 281-6534. E-mail: EHUF@aol.com.***

**(ЯЗ)**

## Тацьцяна Адамовіч - беларуска-амэрыканская чэмпіёнка фэхтаваньня

У Злучаных Штатах жывуць стала або часова некалькі спартсмэнаў і спартсмэнак алімпійскага калібру. Зь іх найчасьцей можна пачуць пра Вольгу Корбут і Віталія Шчэрбу. Але ёсьць і іншыя выдатныя імёны ў гэтым радзе. Адно зь іх - Тацьцяна Адамовіч, якая адзначылася тым, што выступала шмат разоў ад імя Амэрыкі. У гутарцы з карэспандэнткай радыё "Свабода" спадарыня Адамовіч (дзявоцкае прозьвішча Барэйка; былая чэмпіёнка фэхтаваньня; ад 1968 г. жыве замужам у ЗША) сказала пра сябе:

"Потым /пасьля пераезду ў ЗША/ я выйграла спаборніцтвы, стала чэмпіёнкай Амэрыкі і трапіла на Алімпіяду. Была чэмпіёнкай Амэрыкі па жаночай рапіры, пяць разоў на першынстве сьвету за Амэрыку фэхтавала, стала чэмпіёнкай вядомых міжнародных спаборніцтваў у Нью Ёрку. Шмат разоў сустракалася на чэмпіянатах сьвету з нашымі беларускамі, маімі каляжанкамі - Бяловай, Самусенкай. Яны выступалі за СССР, і я зь імі фэхтавала. /.../ Такія сумныя думкі ў галаву лезьлі, калі я выходзіла на дарожку фэхтаваць са сваімі. Быў цікавы выпадак. У Вене фэхтавала з Аленай Бяловай. Яна ўжо была чэмпіёнкаю Алімпіяды, і ўсе прыйшлі да дарожкі паглядзець, як яна фэхтуе з амэрыканцамі, а людзі ня ведалі, што я беларуска. Я пачала выйграваць, але потым я зразумела, што нельга выйграваць у сваёй сяброўкі, бо яны ў такім становішчы, што яна потым не будзе ў камандзе. Я падумала, што для мяне гэта перамога не такая важная, і я аддала ёй бой, яна выйграла. Потым трэнеры Ларыса Германцэвіч і Бокун падышлі да мяне і сказалі: 'Цяпер мы ведаем, што ты наша'. Шкада, што я прайграла, але я гэта зрабіла спэцыяльна". /.../

"У 1975-м годзе я пакінула спаборніцтвы і прадоўжыла вучыцца. Я скончыла ў Беларусі інстытут фізкультуры і тры курсы журналістыкі, была спартовай журналісткай. Тут я пайшла ва ўнівэрсытэт, каб атрымаць магістэрскую ступень у спорце, правучылася два гады, і тады я стала прафэсарам ва ўнівэрсытэце. Акрамя гэтай працы я адчыніла свой клюб - 'Заля Тані'. Я маю шмат таленавітых спартоўцаў, і я іх многіх натрэніравала для алімпійскай каманды ў Амэрыцы, некалькі чалавек ў алімпійскай камандзе - па тры, па дзьве Алімпіяды фэхтавалі мае маладыя спартоўцы, ёсьць чэмпіёны Амэрыкі, унівэрсыядаў".

## Гарбачоў пра Чарнобыль і Беларусь

У інтэрв'ю брытанскаму тэлебачаньню Бі-Бі-Сі 7-га сакавіка сёлета Міхаіл Гарбачоў, былы прэзыдэнт Савецкага Саюзу, сказаў наступнае: "Мы /г. зн. кіраўнікі ў Крамлі адразу пасьля выбуху на чарнобыльскай атамнай станцыі/ думалі, што пацярпіць галоўна Ўкраіна, а тады пабачылі, што гэта - Беларусь". Або, як сказана ў транскрыпце інтэрв'ю: "We thought that the main impact will be on the Ukraine and then we realized it was Belarus."

**(Я. З.)**

## Беларуская мова ў Куінскім калэджы

У каталёгах аддзелу русістыкі Куінскага калэджу гарадзкога ўнівэрсытэту Нью Ёрку зазначаецца, што на факультэце сучасных моваў выкладаецца таксама мовы: беларуская, польская, сэрба-харвацкая, украінская.

У праграме таксама паведамляецца, што ў спэцыялізацыю праф. Томаса Бёрда уваходзіць беларуская літаратура.

Зазначаем, што праф. Томас Бёрд ёсьць рэдактарам ЗАПІСАЎ Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

# ДРУК ЗЬ МІНУЛАГА




Зь Міколам Прускім гадамі трымалася сувязь, калі быў неабходны абмен інфармацыяй пра тое, што й дзе выдавалася й друкавалася ў вольных краінах, дзе пасьля Другой сусьветнай вайны апынуліся нашыя суродзічы з "раскіданых гнёздаў".

Адзін ліст ад яго паведаміў, што ў Канаду прыедзе слаўны й заслужаны паэт Сяргей Хмара. Сустракайце яго, памагайце, а ён паможа вам, калі поўнасьцю, на цэлую іхнюю даўжыню, разгорне свае творчыя крыльлі...

Пра такога крылатага паэта мне не давялося раней ніколі чуць аж да таго часу пакуль зь мюнхэнскай "Бацькаўшчыны" даведаўся, што ў Нямеччыне ў брытанскай зоне аформіўся гурт беларускіх пяцідзесятнікаў. Пытаньне: хто-ж іх там арганізаваў дый навошта?

Адказ зьявіўся ў 1949-м годзе, калі сам арганізатар, тут ужо ў Тароньце, прызнаўся, што гэтая шырма патрэбная была, каб украінскія канадыйскія пяцідзесятнікі фінансавалі яму, жонцы й дачушцы дарогу зь Нямеччыны ў Канаду.

А крылы гэныя, пра каторыя пісаў Панькоў, неўзабаве разгарнуліся. Як сам С. Хмара прызнаўся, вырасьлі яны ў яго ў польскай турме, дзе ён скончыў "камуністычны інстытут журналістыкі..."

На мой ліст Панькоў Мікола не адказаў. Ясна чаму...

У кнізу "Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945-1984)" М. Панькова на бачыне 49 знойдзеце наступнае:"1949 год. Кастрычнік. I - выйшаў "Беларускі эмігрант" - першы нумар часапісу беларускай эміграцыі газэтнага фармату; рэдактар Сяргей Хмара (Таронта)."

Перад намі той-жа нумар. Але ён ня першы, а пазначаны так:"Год II, нр. 9(20), 1 кастрычніка, 1949. Рэдактар К. Акула. Орган ЗБК." Той самы часапіс, што пачаў выходзіць у Ашаве, люты 1948 г.

Чаму-ж Хмара Сяргей на такі фальш кінуўся? Яго з выдавецкага фонду газэты ў хуткім часе выкінулі, але свае здабытыя ў турме мудрасьці КПЖу практыкаваў ён пасьля даволі шырака, самога М. Панькова выкарыстаў ня раз...

На бачыне 115 наступнае:"Верасень, 1957 год. Кіраўніцтва беларускай сэкцыяй гішпанскага радыё перанялі Янка Сурвілла і Віктар Сянкевіч."

Такой сэкцыі пры гішпанскім радыё ў Мадрыдзе не было. Дзякуючы стараньням Янкі Сурвіллы, што ўжо ў лютым 1952-га году разам з Б. Рагулем залажыў у Мадрыдзе Беларускае Акадэмічнае Згуртаваньне, удалося стварыць беларускія перадачы, якія Менск глушыў.

Аўтар "Хронікі" інфармуе:"1958 год, сьнежань, пачатак штодзённых беларускамоўных радыёперадачаў... з Мадрыду, кіраўнік Віктар Сянкевіч."

Віктар Сянкевіч ніколі кіраўніком ня быў, а Янка Сурвілла, нарэшце, ажыцьцявіў сваю мару, стаўся кіраўніком праграмы, якую з сваёй жонкай Івонкай вялі там гадамі.

Мне трапіла аповесьць аднаго амэрыканца (на жаль, кнігі тойне захаваў), які апісвае, што ў савецкім ГУЛАГу, дзесьці ў Азэрбайджане, сустрэў дзьвёх беларусак, якіх укаралі таму, што яны не глушылі беларускамоўную праграму з радыё Мадрыд.

Гэтыя дзьве жанчыны былі зусім невінаватыя. Яны наставілі глушыцель у адпаведны час, адно ня ведалі, што гадзіньнік той ішоў няправільна й пазьніўся на якіх мінут дзесяць. І вось тады беларускія слухачы чулі з Мадрыду галасы Янкі і Івонкі Сурвіллаў.

У кнізе М. Панькова вялізная маса цікавага матэрыялу, адно дрэнна, што многа фальшывага. Відаць, што натхняўся ён тымі разгорнутымі фальшывымі крыльлямі

**К. Акула**

## АДКАЗ ВЫДАЎЦОЎ

*"Друк зь мінулага" - гэтак надзвычай трапна назваў свой допіс у газэту пісьменьнік і грамадзкі дзеяч з Канады Кастусь Акула. Сапраўды, ягоны допіс вяртае нас у той час, калі нашыя эміграцыйныя выданьні поўніліся варажнечай паміж самымі рознымі групамі й групоўкамі. Вось і зараз, калі ўдзельнікаў тых падзей амаль не засталося, калі нават надышло новае стагодзьдзе, былыя крыўды не дазваляюць цьвяроза глядзець на зробленае - калі не самім сабою, дык іншымі.*

*Сп. Акула піша пра памылкі аўтара, называючы іх "фальшаваньнем". Цяжка сёньня адказаць выдаўцам кнігі, чаму аўтарам было напісана тое ці іншае, якія памкненьні рухалі ім. Затое выдаўцы могуць сказаць, што падчас падрыхтоўкі рукапісу да друку зьвярталіся не да аднаго дзеяча эміграцыі, сьведкаў ды ўдзельнікаў тых падзеяў, з пытаньнямі, просьбамі дапамагчы праверыць факты, спраўдзіць імёны. Мала хто згадзіўся. Імёны тых, хто дапамагалі, надрукаваныя ў кнізе. Але адмоваў было болей, у тым ліку і ад Сп. Акулы.*

*Магчыма, каб зацікаўленыя й дасьведчаныя людзі адгукнуліся на просьбы аб дапамозе своечасова, з думкаю аб карыснасьці справы, можна было-б пазьбегнуць і натуральных памылак, і надуманага "фальшаваньня".*

**Л. Юрэвіч**

# "ДЗЕНЬ ДУМАНЬНЯ" - ПРА БЕЛАРУСЬ

У сярэдняй школе нью джэрзыйскага гораду Радзэрфорд, дзе вучыцца 7-гадовая Крыстына Гайда (на здымку крайняя зьлева), раз на год праводзіцца "Дзень думаньня" (Thinking Day). Арганізуюць яго скаўты й скаўткі, да якіх належыць і Крыстына. А ейная мама, Галіна Бахар-Гайда (трымае плякат зьлева), кіруе дружынай скаўтак. Сёлета Галініна дружына пастанавіла зьвярнуць увагу на Беларусь у "Дзень думаньня". Супольнымі сіламі сабралі народную вопратку, патрэбныя эспанаты, літаратуру ды іншае й наладзілі ў школе беларусаведны стэнд. Вялікую дапамогу ў арганізаваньні выстаўкі аказаў Крыстынін дзядзька, а Галінін брат, Коля Бахар.

Бацькі Крыстыны - Барыс Гайда й Галіна (зь сям'і Міхася й Любы Бахараў) - вырасьлі, адпаведна, у украінскай і беларускай атмасфэры, хоць абое нарадзіліся ў Амэрыцы. Дачушка іхная вучыцца пераймаць спадчыну абаіх бацькоў, якія разумеюць важнасьць перадаваньня наступнаму пакаленьню ведаў пра краіны дзядоў.

На "Дзень думаньня" пра Беларусь Барыс Гайда стаўся нават "пачэсным беларусам". 9-га лютага ў школу зыйшліся скаўты з бацькамі, каб даведацца пра Беларусь. На сталох ляжалі калярытныя беларускія народныя вырабы, кніжкі, здымкі. На таблё, упрыгожаным бел-чырвона-белым сьцягам была вывешаная інфармацыя пра Беларусь. Скаўткі Галінінай дружыны адказвалі, як умелі, на пытаньні пра далёкі цікавы край, адкуль прыбылі ў Амэрыку Крыстыніны дзяды.

**(Я.З.)**






# ВЫСТАВА ЭТНІЧНЫХ ЖАНОЧЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ У ЧЫКАГА

Ужо некалькі гадоў узапар пад спонсарствам губэрнатара штату Ілінойс ладзіцца выстаўка ў гонар этнічных жаночых арганізацыяў "Tribute to Ethnic Women's Orhanizations". Сёлета Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага ізноў прыняў удзел пасярод болей за 30 жаночых арганізацыяў. Сп-ня Вера Рамук нарыхтавала экспанаты, нагадваючыя беларускую спадчыну ў Чыкага, а сп-р Нікадэм Жызьнеўскі прырыхтаваў надпісы на іх. Экспанаты былі разложаныя на стэндзе сп-нямі Раісай Шпакоўскай-Братків і Верай Рамук, якія апранулі нацыянальныя строі.

З нагоды 84-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі была выстаўленая праклямацыя, выданая губэрнатарам Джорджам Раенам на дзень 25-га Сакавіка, побач быў абраз Сьв. Эўфрасіньні, а далей абраз Сьв. Язафата, выявы "Пагоні", беларускі нацыянальны сьцяжок, здымкі беларускай ялінкі, выстаўленай у Музэі Навукі й Індустрыі, а таксама імпрэзаў у Чыкага, далей абраз Маці Божай апякункі Беларусі, абраз трох віленскіх пакутнікаў. Невялічкая мапка дапамагала наведнікам з'арыентавацца ў гэаграфічным палажэньні Беларусі.

Для азнаямленьня публікі зь беларускім кірылічным і лацінскім альфабэтам быў прыгатаваны даведнік, а калярытны альбом "Беларускія мастакі ў замежжы", выданы ў Нью Ерку, быў добрым жоралам аб багатай мастацкай творчасьці. "Historical Dictionary of Belarus" - гэта малая энцыяпляпэдыя, аўтарам якой ёсьць Др. Ян Запруднік, цікавіла наведнікаў. Была кніжка аб беларускай кухні. А кніжка-даведнік "Belarusans in the United States" Др. Вітаўта Кіпеля была добрай крыніцай пра дзейнасьць беларусаў у Амэрыцы.

З часапісаў быў "Belarusian Review". А вось альбом беларускай філятэлістыкі, нарыхтаваны сп-ом Багданом Паукам, выклікаў бясспрэчна зацікаўленасьць у наведнікаў, асабліва маркі аб зімовай Алімпіядзе ў Солт Лэйк Сіці. Вышыванкі, нарыхтаваныя сп-няй Людвікай Бяленіс, былі аб'ектам заінтарэсаваньня ў жаночай публікі. Скрыначкі, інкруставаныя саломкай, і шкатулка, разьба па дрэве, прывезеныя зь Беларусі, прыдавалі атракцыйнасьці выстаўцы.

З нагоды надыходзячых Вялікодных сьвятаў быў выстаўлены кошык з мініятурнымі штучнымі яечкамі, а побач стаяла іконка Жыровіцкай Божай Маці.

Увесь стэнд выглядаў калярытна і імпазантна, шмат наведнікаў цікавілася экспанатамі і стаўляла розныя пытаньні ды фатаграфаваліся з арганізатарамі выстаўкі.

**Вітаўт Рамук**

# СЬВ. ПАМЯЦІ
# ГАЛІНА РУСАК (24.05.1928 - 14.09.2000)
# ВАСІЛЬ РУСАК (14.11.1923 - 20.10.2000)



Галіна й Васіль Русакі былі маімі знаёмымі, сябрамі й супрацоўнікамі ад 1953-га году, а пасьля нашага з Надзеяй Кудасавай шлюбу ў 1995-м годзе - жылі побач з намі, дом каля дому. Надзя ведала іх шмат раней і была іхнай суседкай цягам дзесяцігодзьдзяў: бачыла, як гадаваліся, вырасьлі ды павыходзілі замуж іхныя дочкі Люда й Натальля; як падрасталі ўнукі Васіля й Галіны. Самымі апошнімі гадамі, калі Васіль быў ужо на пэнсіі, а Галіна яшчэ працавала дырэктарам мастацкае бібліятэкі Ратгерскага ўнівэрсытэту, у нас зь імі адбываліся амаль штодзённыя гутаркі-сустрэчы - цёплыя чалавечыя кантакты, зь якіх складаецца солад жыцьця й сяброўства. Мы ня толькі жылі побач адны' адных, але падзялялі тыя самыя прынцыповыя вартасьці, тое самае перажывалі ў сувязі з падзеямі ў Беларусі. Прывыкшы да штадзённых спатканьняў, адчуваем і дасюль вялікую страту сяброў і суразмоўнікаў. Часта, калі выходзіш надвор або ідзеш па вуліцы, так і здаецца, што вось-вось зьявіцца насустрач знаёмая постаць, і адбудзецца адзін з тых прыемных мамэнтаў кароткага абмену словам-другім. Застаўся стаяць знаёмы дом, але заселены ўжо іншымі людзьмі...

Васіль і Галіна былі гарачымі патрыётамі Беларусі, нястомнымі працаўнікамі на палітычнай, навуковай і грамадзкай ніве. Іхны беларускі сьветагляд, глыбіня й трывучасьць нацыянальна-культурных перакананьняў найвыразьней выявіліся ў тым, што іхныя дочкі й унукі валодаюць беларускай мовай і перахоўваюць зацікаўленасьць да беларушчыны. Частка заслугі ў гэтым, безумоўна, і Галініных бацькоў, якія зрабілі свой вялікі ўклад у гадаваньне Люды й Натальлі.

Васіль родам з-пад Баранавічаў, а Галіна - з-пад Наваградка, сваёй грамадзкай працай сталіся прадаўжальнікамі багатае патрыятызмам бацькоўскае традыцыі.

Васіль з Галінаю яшчэ са студэнцкіх часоў у канцы 1940-х гадоў у Заходняй Нямеччыне, а пасьля ў ЗША, былі актыўнымі сябрамі ў Згуртаваньні Беларускае Моладзі, Беларускім Студэнцкім Таварыстве ў ЗША ды Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньні, а далей - у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва, у Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве ды ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі.

Васіль улажыў шмат працы й здольнасьцяў у арганізацыю рэлігійнага жыцьця, у штадзённыя патрэбы парафіі ў Гайлянд-Парку, у распрацоўваньне статуту ды іншых дакумэнтаў БАПЦ. Вартасны ягоны ўклад у справу судовае абароны інтарэсаў прыходу й усяе БАПЦ.

Галіна прыклала нямала намаганьняў для рэклямаваньня імя Беларусі шляхам мастацкае творчасьці ды арганізаваньня выставак як сваіх малюнкаў, гэтак і твораў мастакоў, у тым ліку чарнобыльскіх дзяцей зь Беларусі. Выстаўкі ейных твораў адбываліся ў Нью Ёрку, Нью Брансўіку, Саўт-Рывэры, Вашынгтоне ды іншых гарадох, а таксама ў Беларусі пасьля абвешчаньня незалежнасьці.

Васіль зрабіў удалую кар'еру ў сваёй прафэсіі інжынера, спэцыяліста дынамікі помпаў, друкаваўся ў прафэсійных часапісах, а таксама меў патэнты.

Галіна з посьпехам працавала ў мастацкай бібліятэцы Ратгерскага ўнівэрсытэту на працягу доўгага часу на становішчы дырэктара. Шмат часу прысьвяціла зьбіраньню матэрыялаў пра полацкую князёўну Прадславу, ведамую нам як Сьв. Еўфрасіньня Полацкая. Галіна сабрала вялікі бібліяграфічны й дакумэнтальны матэрыял, знаходзіла ў ім цікавыя асаблівасьці, шукала гістарычных сувязяў паміж тымі аддаленымі часамі й сучасным разьвіцьцём Беларусі. Частковыя вынікі ейных досьледаў апублікаваныя ў навуковых выданьнях. Шкада, што раптоўная сьмерць не дазволіла ёй давесьці да канца гэты цікавы экскурс у нашу мінуўшчыну.

Васіль, які апошнімі часамі актыўна працаваў у рэдкалегіі апрацоўванага ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ангельска-беларускага слоўніка, меў намер напісаць мэмуарны нарыс пра жаўнераў чужых арміяў у ягоным бацькоўскім доме. Стан здароўя не дазволіў яму зрэалізаваць гэты праект. Зь ягонай пісьмовай спадчыны засталіся частыя допісы ў газэце "Беларус" пра беларускае рэлігійнае жыцьцё ў Нью Джэрзі, розныя палітычныя й культурныя падзеі, як фэстывалі, зьезды, сустрэчы з урадавымі асобамі, сьвяткаваньні ды інш.

Васіль і Галіна Русакі - сьветлы прыклад людзей, якія на сваім зямельных шляху кіраваліся высакароднай мэтай: выгадаваць дзяцей і ўнукаў, даць ім добрае ўзгадаваньне, быць плённымі сябрамі свае беларускае грамады й пакінуць ёй у спадчыну плады свайго шчодрага жыцьця.

Вечная ім удзячнасьць, вечная памяць.

*Янка Запруднік.*

***Замяж кветак на магілу сьв. пам. Галіны й Васіля Русакоў ахвяравалі Міхась і Ніна Рагулі $200.***







## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| В. і Ф. Бартуль | 100 |
| К. і Я. Вініцкі | 100 |
| Н. Жызьнеўскі | 100 |
| Н. і М. Рагуля | 100 |
| В. і В. Рамук | 100 |
| К. Романо | 100 |
| М. Сагановіч | 100 |
| М. і Т. Грынчук | 50 |
| Э. і Л. Норык | 50 |
| М. Сьнежка | 50 |
| Ю. Найдзюк | 40 |
| Т. і С. Раманюк | 30 |
| І. Сурвілла | 30 |
| М. і К. Верабей | 20 |


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
**Выдае штомесячна: БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е**
**Падпіска $30 на год.**

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
**Published monthly by BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.**
**Subscription $30 yearly**

**Рэдагуе калегія.**
Адказны рэдактар **Марат Клакоцкі**
Тэхнічны рэдактар **Мікола Шыдлоўскі**
Падпіска **Сяргей Трыгубовіч**

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*

**Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.**





**Адрас для допісаў:**
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Рэкламная служба:**
тэл./факс (718) 206-3545


***Адказнасьць за зьмест рэкламы нясе рэкламадаўца.***